

Пазнаёмцеся — гэта Піф. Ён надзіва кемлівы сабака: умее хадзіць на задніх лапах, размаўляць і нават чытаць кніжкі.

Па праўдзе кажучы, Піф — свавольнік і гарэза. Але сэрца ў яго добрае. Піф ніколі не пакрыўдзіць таго, хто слабейшы і маладзейшы за яго.

Зброды і выдумкі Піфа добра знаёмыя французскім дзеткам.

У гэтай кніжцы вы прачытаеце пра некаторыя прыгоды Піфа — і вясёлыя, і сумныя. Напэўна, яны спадабаюцца вам гэтак жа, як яны падабаюцца маленькім французам.

А вось і іншыя героі гэтай кніжкі.





Гэта гаспадар Піфа — дзядзька Цэзар. Жонка і сын клічуць яго паміж сабой Тантон. І Піф называе яго Тантон. Бо Піф лічыць сябе чальцом гэтай сям'і.

А гэта цётка Агата, жонка Тантона. Як бачыце, яна ладная таўстушка. Цётка Агата часцяком просіць Піфа дапамагчы ёй па гаспадарцы.

Дуду — іхні сын, верны сябар Піфа ў ягоных свавольствах. Здараецца, што ён гарэзуе нават больш за Піфа, і тады Піфу прыходзіцца цяжка.

А гэта чорны кот Геркулес, задзіра і буян. Ня будзем вам распавядаць, як ён ужываецца зь Піфам, вы ўсё зразумееце самі, як толькі зірнеце на малюнкі.

А цяпер перагарнем яшчэ адну старонку.

## ВЕРНЫ ВАРТАЎНІК



Сёння дзень вялікага мыцьця. Цётка Агата сушыць у двары бялізну.

— Вартуй добра бялізну! — кажа яна Піфу. — Нікога не падпускай!



Але тут зьявіліся коткі.





— Апсік адсюль, коткі, — закрычаў Піф. — Не падыходзьце да бялізны!



Ён паразагнаў усіх котак. Дык чаму ж цётка Агата незадаволеная?

## ТАК ЛЕПШ





Піф зусім не лайдак,
але падмятаць падлогу сумна.



Так значна весялей!

## КОТ У КЛЕТЦЫ



Нікога няма дома, і Геркулес вырашыў папаляваць.



Кепска зараз давядзецца бедным канарэйкам…



Але Піф падасьпеў своечасова! Каму цяпер кепска?

## НЕРАЗЛУЧНЫЯ СЯБРЫ



Цётка Агата зьвязала для Дуду швэдру і шапку.
— Яны мне вялікія, — сказаў Дуду.



А цяпер акурат добра!



## ПІФ-САДОЎНІК



— Я зьяжджаю, Піф, — сказаў Тантон, — а ты павінен кожны дзень палівацьй кветкі.



— Лёгка гаспадару казаць «кожны дзень», а я, бедны, павінен іх палівацьй пад праліўным дажджом!

## У КІНО




Піф і Дуду сабраліся ў кіно. Але дзецям без дарослых не прадаюць квіткоў. І сабакам чамусьці таксама не прадаюць.



Здаецца, яны нешта прыдумалі…




Цяпер іх, вядома, пусьцяць!

## ПІФ І ГЕРКУЛЕС



Уся сям'я адправілася ў госьці. А Піфа, каб ён не пабег усьлед, пасадзілі на ланцуг.



«Цяпер можна дражніць Піфа колькі заўгодна, — вырашыў Геркулес, — ланцуг трымае яго моцна!»



Але і ланцуг не ўтрымаў Піфа!



## ПІФ МІРЫЦЦА З ГЕРКУЛЕСАМ



Піф ня памятае ліха. Ён злавіў мышаня і вырашыў падараваць яго Геркулесу.



Але хцівы Геркулес ў гэты час уплётваў Піфаў сьняданак.



— Мне шанцуе! — сказала мышаня.

ДЗЕ Ж ПІФ?



Цётка Агата папрасіла Піфа абабраць да абеду крыху бульбы.



Піф ахвотна ўзяўся за справу.





— Зараз цётка Агата ўбачыць, які я добры памочнік!



Але цётка Агата ня ўбачыла свайго памочніка. Дзе ж Піф?

## У МОРЫ



Піф і Дуду купаліся ў моры.
— Як ты добра плаваеш на спінцы, — сказаў Дуду.



— Гэта зусім ня цяжка!



## ПІФ-КОНІК



Вось вясёлая гульня! Піф ператва-рыўся ў каня, а Дуду — у фурмана.



— Но-но, кабылка!
Бяжы хутчэй!
Я пачастую цябе
смачным абедам!



— Вось дык абед! Дуду думае, што я сапраўдны конь!

ЗЛЫ САБАКА




Цётка Агата загадала Піфу аднесьці суседзям кошык гароднiны.




Але ў суседзяў быў злы сабака.




— Ой, як страшна! Але я ўсё ж пайду далей!



— Дык вось ён, злы сабака! Ён ня большы за мой нос, але брэша ў рупар!

## ПІФ НЕ РАЗГУБІЎСЯ



Паглядзіце, які злы жарт згулялі з Піфам суседзкія хлопчыкі.




Але Піф не разгубіўся. Ён здаў усе гэтыя бляшанкі і слоікі ва ўтыль.



## ДОМ НА СЬПІНЕ



Чарапаха Караліна шпацыравала ў садзе.

— Паглядзіце, — сказаў Піф, — яна носіць на сабе свой дом! А калі і мне зрабіць так сама?



Цяпер і я заўсёды дома!

## ЦЯЖКІ ПАХОД



Аднойчы Тантон сабраўся ў паход.
— І мы з табой! — сказалі Піф і Дуду.
— Не, гэта занадта цяжка для хлопчыкаў!



— Мабыць, гэта занадта цяжка і для мяне! Час адпачыць.





— Вылазь, Дуду! — сказаў Піф. — Адпачнем і мы.

ГУЛЬНЯ ДЛЯ ДЗЯЎЧЫНАК



— Тантон, нам патрэбныя скакалкі!



— Але гэта гульня для дзяўчынак! — засьмяяўся Тантон.





— Вядома ж, для дзяўчынак!

## ВОСЬ ЯК МОЖНА ПІЛАВАЦЬ ДРОВЫ



— Даволі гушкацца, Піф, — сказаў Тантон, — трэба пілаваць дровы.



— Пілаваць дровы? Калі ласка!



## ПІФ ВЯЗЕ ТАЧКУ



— Піф, перавярні тачку, ты вязеш яе дагары нагамі! — сказаў Тантон.

— Ну не, — адказаў Піф, — калі я перавярну тачку, ты адразу нагрузіш яе чым-небудзь!

## ПАД ДАЖДЖОМ



— Як добра ў дождж таму, хто мае дах над галавой!



У Піфа добрае сэрца.
— Сябры, вы зусім прамоклі, — кажа ён суседзкім сабакам, — ідзіце ўсе да мяне ў буду!





Бедны Піф! Ягоная буда такая малая, а сяброў так шмат!

НОВЫ ДОМ ПІФА



У Піфа цяпер новая буда. Але ён марыць пра хмарачос.



І вось ён узяўся за працу.





Гатова, дом пабудаваны! Праўда, жыць у ім ня вельмі зручна. Затое паглядзіце, як ганарыцца ім Піф!

А цяпер, на апошняй старонцы, некалькі слоў хоча сказаць сам Піф. Ён напісаў вам ліст:

ШАНОЎНЫЯ ДЗЕЦІ!

Вось мы і пазнаёміліся. Напішыце мне, калі ласка, ці спадабаліся вам гісторыі, зьмешчаныя ў гэтай кніжцы. Хто вам спадабаўся з маіх сяброў? Спадзяюся, не Геркулес? Паміж намі кажучы, ад гэтага ката лепш трымацца далей.

Наша кніжка сканчаецца, і нам з вамі пара разьвітацца.

Але я думаю, што мы разлучаемся ненадоўга. Вы ўбачыце мяне ў іншых кніжках і даведаецеся пра мае новыя прыгоды.

Такім чынам, да наступнай сустрэчы, сябры!

Моцна цісну вашыя лапы.

Піф.

